


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

22 лютага 2002 года
№ 8 (357)
Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Знайшлі ампутаваную нагу

СМАРГОНЬ. На тэрыторыі школы-інтэрната, у раёне новабудоўлі, настаўнікі знайшлі незвычайны прадмет – ампутаваную чалавечую нагу. Высветлілася, што гэтая канечнасць была прафесійна адрэзаная з-за гангрэны, а таксама, што ў мясцовай бальніцы апошнім часам падобныя аперацыі не праводзіліся. Адкуль яна ўзялася, невядома. Вядзецца следства. А па горадзе паўзуць чуткі пра хірурга-маньяка.

Таццяна СКАРЫНКІНА.

### Рэха вайны

АШМЯНЫ. У панядзелак жыхар вёскі Баруны **Генадзь Шульвінскі** каля вёскі Гарэцкаўшчына знайшоў міну часоў другої сусветнай вайны. Пра знаходку паведамілі ў Ашмянскі РАУС. Работнікамі міліцыі праводзіцца праверка.

Пётр ЯВІДОВІЧ.

### Перамагла «Мафія»

ВАЛОЖЫН. 16 лютага ў раённым цэнтры культуры прайшла гульня КВЗ. Удзел бралі каманды ПТВ-208 "Мафія" і СШ №2 "Сливки общества". Перамагла "Мафія", за што атрымала хрустальную вазу і іншыя падарункі.

Вольга ПІЛІПЕНКА.

### Будзе каму заняцца эканомікай

МЯДЗЕЛ. Доўгі час было вакантным месца намесніка старшыні райвыканкама, які курыруе эканоміку. Ім прызначаны 31-гадовы **Леанід Берняковіч**. Дагэтуль каля года ён кіраваў калгасам «17 Верасня». Гаспадарка не самая перадавая, але адна з нямногіх, якія стараюцца жыць і выплачваць зароблены людзьмі грошы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Напад на могілкі

СМАРГОНЬ. Тут абрабавалі новыя могілкі (такая ў іх народная неафіцыйная назва, афіцыйнай пакуль няма). Больш чым з 10 агароджаў сарвалі літыя ўпрыгожванні. Вартаўнік **Іван Бумбуль** лічыць, што гэта зрабілі падлеткі з мэтай нажывы. Ды ў поцемках не разабралі, што замест патрэбнага ім алюмінію паабрывалі кветкі з чугуну.

Таццяна СКАРЫНКІНА.

### Нацпарк цяпер з табло

МЯДЗЕЛ. У Купе пачало працаваць табло, на якім высвечваюцца час, тэмпература паветра і вады. Усталявана яно на адміністрацыйным будынку Нацпарку «Нарачанскі».

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Масавы падзеж кароў

АСТРАВЕЦ. У ноч з 15 на 16 лютага на ферме ў вёсцы Супраненты здохла 28 кароў. Яшчэ адна загінула праз дзень.

Старшыня калгаса імя Кірава **Аляксей Шафарэвіч** сказаў, што ўсяго кароў на ферме 270. Стан астатніх здавальняючы. Як сказалі ў раённай ветэрынарнай аптэцы, прычынай масавай гібелі жывёлы можа быць атручванне. Вядзецца следства.

Аддзел інфармацыі "РГ".



### Надвор'е на выхадныя

Субота, 23 лютага

Мінск
-10°С (уначы)
-1°С (удзень)



Вільня
-11°С (уначы)
-1°С (удзень)



Нядзеля, 24 лютага

Мінск
-3°С (уначы)
-1°С (удзень)



Вільня
-7°С (уначы)
-1°С (удзень)



# Грып ідзе па рэгіёне

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе пачалася эпідэмія грыпу. Па прагнозе галоўнага ўрача Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (ЦГіЭ) Міхаіла Грабоўскага, пік захворванняў наступіць праз тыдзень.**

У першы тыдзень лютага на вострыя рэспіраторныя захворванні (ВРЗ) і грып захварэлі 2800 чалавек. Гэта ў 4 разы больш за сярэднегадовы паказчык. Далей – больш. За 11 і 12 лютага захварэлі 1100 чалавек (за увесь тыдзень – 2454 чалавекі). 18 лютага – новая ўспышка. Па медыцынскую дапамогу звярнуўся 891 чалавек. З 14 лютага ЦГіЭ увёў у горадзе каранцін.

Цяпер забароненыя масавыя мерапрыемствы ў дзіцячых і падлеткавых калектывах. Дырэктары школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў павінныя патэлефанаваць у ЦГіЭ, калі будзе адсутнічаць больш за 30% навучэнцаў і персаналу. У школах хварэюць каля 20-25% навучэнцаў. Таму ёсць шанцы, што некаторыя навучальныя ўстановы закрыюць на каранцін. Хаця лік ужо адкрыты – першым стаў інтэрнат ПТВ-21. Летась незапланаваныя канікулы былі толькі ў СШ №6.

У кастрычніку ў мэтах прафілактыкі зрабілі прышчэпкі ад грыпу каля 2000 чалавек. Гэта дзеці, медработнікі і людзі з лёгачнымі хваробамі. Як гаворыць Міхаіл Грабоўскі, для такога горада, як Маладзечна, гэта кропля ў моры.

Вольга ПІЛІПЕНКА, Юрый КАРПІЦКІ.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У Маладзечне – эпідэмія грыпу. Персанал гарадской паліклінікі, у тым ліку, гардэробшчыца Тамара Воўкава, абавязаны насіць марлевыя павязкі.

## Фотаапытанне маладзечанцаў

# Як збіраецеся засцерагацца ад грыпу?



**Мікалай Далінкевіч, беспрацоўны:**
– Калі служыў у арміі, давалі часнок і цыбулю. Але лепш звярнуцца да ўрачоў. Яны ж нешта заканчвалі.



**Інэса Вошчанка, прадпрымальнік:**
– Не ведаю. Мабыць, дамашняе лячэнне. Я не давяраю ўрачам.



**Віктар Кусовіч, прадпрымальнік:**
– Я ўжо захварэў. Лячыцца буду дома. Эпідэміі, напэўна, не будзе. У нас выпрацаваўся імунітэт.



**Іна Жаўняровіч, апаратчык:**
– Не ведаю. Калі захварэю, звярнуся да ўрачоў. Кожны год хварэе шмат людзей. Магчыма, і эпідэмія пачнецца.



**Бэці Аўдзеенка, дырэктар музычнай школы:**
– Простымі народнымі сродкамі. Мы ніякіх прышчэпак не рабілі. Гэта як у анекдоце: "Калі лячыць грып, тады вылечышся за тыдзень, а калі не лячыць – за 7 дзён. Мяркую, што эпідэміі не будзе. Хаця ў нас адсутнічае шмат дзяцей.



**Алег Бяганскі, рабочы (эколаг):**
– Перахварэў у лёгкай форме. Прымаў прэпарат "Флараэнта" на аснове піхты з распрацовак Новасібірскай акадэміі. Грып перанёс на нагах. У мамы таксама быў грып. Але ўсё скончылася добра.

Фотаапытанне правяла Вольга ПІЛІПЕНКА.

■ МАЮ ПРАВА

# Маладзечанец звяртаецца ў ААН

## Карыстанне нацыянальным сцягам – правапарушэнне

**Скарга маладзечанца Эдуарда Баланчука ў Вярхоўны Суд Беларусі на неабгрунтаванасць прыцягнення яго да адміністрацыйнай адказнасці за карыстанне нацыянальным бела-чырвона-белым сцягам засталася без задавальнення.**

1 верасня летась маладзечанец Эдуард Баланчук пры правядзенні ўрачыстага сходу на адкрыцці помніка Міхалу Клеафасу Агінскаму разгарнуў бела-чырвона-белы сцяг. За гэта пастановай маладзечанскага гарадскога суда ён быў падвергнуты адміністрацыйнаму спагнанню – на яго быў накладзены штраф ў памеры 10 мінімальных заробткаў. Кіраўнік Маладзечанскай праваабарончай арганізацыі – аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта – быў вымушаны адстойваць сваё права на карыстанне нацыянальнай сімволікай. Усе пагаджаліся, што бела-чырвона-белы сцяг сапраўды з'яўляецца гістарычным сцягам Беларусі. У адказе міністра юстыцыі Беларускаму Хельсінкскаму камітэту па справе Баланчука гаварылася, што, у адпаведнасці з пісьмом Дзяржкамітэта па архівах і справаводстве, бела-чырвона-белы сцяг з'яўляецца гістарычным сцягам Беларусі. Але, на думку суддзяў, карыстанне ім з'яўляецца парушэннем заканадаўства. "Вашыя довады, – гаворыцца ў адказе намесніка старшыні Вярхоўнага Суда Беларусі **У. Пташніка** на скаргу пана Баланчука, – што карыстанне гістарычным сцягам – гэта не падстава да прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці, з'яўляюцца безгрунтоўнымі. Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь не адрэгулявана пытанне аб парадку і правілах карыстання гістарычнымі сцягамі і ў сувязі з гэтым пры правядзенні мерапрыемстваў, пералічаных у дыспазіцыі арт. 167–2 КаАП, трэба выконваць патрабаванні дзеючага заканадаўства".

Паколькі ўсе магчымасці ў Беларусі даказаць сваю праўду Эдуардам Баланчуком былі вычарпаныя, ён накіраваў сваю скаргу на дзеянні ўладаў у Камітэт па правах чалавека пры ААН, які размешчаны ў Жэневе. У сваёй скарзе ў Жэневу маладзечанец піша, што "гістарычныя сімвалы нідзе не падлягаюць рэгістрацыі. Гістарычны сцяг Беларусі да 1996 года быў дзяржаўным сцягам і ні практычна, ні тэарэтычна не можа быць зарэгістраваным... У нашай краіне пры правядзенні сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетаваннях, у тым ліку, і дзяржаўнага маштабу, паўсюдна адбываецца карыстанне флагамі былога СССР, Узброеных сіл СССР, а таксама іншымі гістарычнымі флагамі БССР і іншых былых саюзных рэспублік. Рэгістрацыя гэтых гістарычных флагаў не прадугледжаная, і іхняе выкарыстанне пры публічных акцыях не цягне адказнасці". Эдуард Баланчук лічыць, што пакаранне за карыстанне гістарычным бела-чырвона-белым сцягам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца праследаваннем па палітычных матывах. Такія дзеянні, на думку праваабаронцы, відавочна супярэчаць Канстытуцыі Беларусі: артыкулу 33, дзе кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне, артыкулу 50, па якім абраза нацыянальнага гонару праследуецца па законе, артыкулу 54, дзе сказана, што кожны абавязаны берагчы гісторыка-культурную, духоўную спадчыну і іншыя нацыянальныя каштоўнасці, артыкулу 59, дзе дзяржавай гарантуюцца ўсе даступныя ёй меры для стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага здзяйснення правоў і свабод грамадзян, прадугледжаных канстытуцыяй.

"Ва ўсім свеце няма ніводнай дзяржавы, у якой бы грамадзяне караліся за карыстанне гістарычным флагам. Няўжо "Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава" (атрыкул 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), будзе першай такой дзяржавай?", – задае рытарычнае пытанне Эдуард Баланчук.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ТЭАТР

# «Проста Мяфа»

**(пастараль для дзяцей)**

Пастаноўка Мінскага абласнога драматычнага тэатра па п'есе **Алены Палешчанкавай**. Захапляльная і адначасова павучальная гісторыя пра Ката Мікалая, Пеўня Пецю і сабаку Мяфу.

Аднойчы Мяфа заявіў, што ён адмаўляецца быць сабакам. Кот і Певень па чарзе выконваюць яго абавязкі, а Мяфа спрабуе засвоіць "навуку" палявання на мышэй і здабычы корму для курэй. Але гэтая "навука" даецца яму вельмі няпроста. І раптам з'яўляецца ліса. Што было далей, глядач даведаецца, калі паглядзіць спектакль.

**Барыс ВАВІЛАЎ.**



Архіў "РГ".

**Сцэна са спектакля "Проста Мяфа". Злева направа: Кот Мікалай (Андрыян Барткевіч), сабака Мяфа (Вікторыя Карасевіч) і певень Пеця (Віктар Немец).**

■ МІНУЛАЕ

# Адпомсціў праз 30 год

Любіў **дзядзька Панас** расказваць, як ваяваў падчас першай сусветнай вайны. Праўда, перш, чым трапіць пад Смаргонь, дзядзька Панас добра наваяваўся і ў Карпатах. Там ён быў некалькі разоў паранены, ды яшчэ перахварэў на цынгу. І вось ён апынуўся на фронце паміж Маладзечнам і Смаргонню.

– Кажуць, браталіся, браталіся, – даводзіць былы салдат. – Абдымаліся нават. І не толькі. Мы яшчэ... у карты гулялі, – працягвае дзядзька Панас. – А як толькі камандзір з'яўляецца на гарызонце – усе па сваіх пазіцыях. Ворагі, значыцца, мы цяпер. Ды што гаварыць! Ворагамі і былі, хоць і браталіся. Яны і ўзброеныя былі лепш, чым нашыя. Пад канец вайны ў рускіх адна вінтоўка на траіх. Але і тут мы знаходзілі спосаб.

– Раскажы, дзядзька Панас, – прасілі мужчыны, што сабраліся гуртам ля сялібы.

– Аднойчы мы вырашылі ісці ўрукапашную. Сказана – зроблена. Як толькі каманда паступіла, мы і рынуліся на іх! А што іх вінтоўкі?! Доўгія, ды яшчэ са штыком. Пакуль яны за вінтоўкі, дык нашы кулакі ўжо скачуць у іх пад носам!

Далей дзядзька Панас абрываў аповяд, бо ведаў: скажы ўсю праўду да канца – будзе страшэнны рогат.

А было вось што. У адным з такіх рукапашных баёў гэты германец, той самы, з якім у карты гуляў, падабраўся да дзядзькі Панаса адзаду і штыком пракалоў яму (выбачайце!) мяккае месца.

Залячыўся наш баец, але дадому вярнуўся з пракалатым месцам і з вінтоўкай пад палой шыняля.

– Адпомшчу! Усё адно адпомшчу! – пагражаў дзядзька Панас.

Пра схаваную ў надзейным месцы вінтоўку не ведалі нават жонка і дзеці.

Ішлі гады, дзесяткі год і вось надышоў 1944-ы. Савецкая армія гнала ворага ўжо пад Лідай. Аднойчы ў вёсцы пачуўся свіст і крыкі:

– Немцы! Немцы ў асінніку!

Змардаваныя нядаўнімі баямі, параненыя, галодныя і знямоглыя, пляліся яны адзін за адным па зарослых акопах першай сусветнай. Так і рухаліся ў той бок, адкуль прыйшлі ў 1941-м. Лямант і крык даляцелі і да дзядзькі Панаса. Як толькі немцы апынуліся непадалёку ад яго хаты, ён дастаў схаваную ў свой час зброю і кінуўся за імі. Аднаго з іх дагнаў. Як дзядзька Панас яго забіў – стрэліў ці прыкладам – ніхто не бачыў. Але адпомсціў.

Цяпер дзядзька Панас заканчваў свой аповяд пра вайну словамі:

– Але ж адпомсціў!

**Любоў КАРПОВІЧ.**

# Дзень памяці і сустрэчы



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Маладзечна, 15 лютага. Мітынг памяці воінаў-афганцаў.**

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 лютага прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 13-й гадавіне вываду савецкіх войскаў з Афганістана.**

Аб 11-й гадзіне ля Сцяны памяці прайшоў мітынг, які наладзіла грамадская арганізацыя "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане". Памяць тых, хто загінуў, ушанавалі хвілінай маўчання. Выступоўцы гаварылі пра тую вайну. Намеснік старшыні гарвыканкома **Данілея Жук** сказала:

– Мы не павінны вінаваціць – павінны памятаць.

А ўвечары ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў прайшоў урачысты канцэрт.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**СМАРГОНЬ. У мінулую пятніцу тут таксама прайшла сустрэча з воінамі-афганцамі. Адначасова ў гарадскім Доме культуры праводзілі раённы конкурс патрыятычнай песні.**

Першае месца падзялілі **Аляксандр Сініковіч і Святлана Гайдукевіч.**

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Карабін замест іголкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У дзяжурную часць міліцыі жыхар Мясаты здаў агнястрэльную зброю.**

Ён расказаў, што 5 лютага паблізу вёскі Крыніца аб'язджаў паляўнічую гаспадарку. І ў стагу сена знайшоў наразны карабін з аптычным прыцэлам сістэмы Мосіна. Вядзецца праверка.

## Загінуў з-за неасцярожнасці

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы аўторак на ААТ "Забудова-Дрэў" загінуў мужчына.**

Ён жыў у вёсцы Мазалі і працаваў рамшчыкам. Няшчасны выпадак адбыўся з-за невыканання правілаў тэхнікі бяспекі. Пры ачыстцы транспартнай стужкі ад пілавіння рабочы забыўся адключыць транспарцёр. У выніку трапіў пад яго барабан.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на сакавік

**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| **3 нядзеля** 12-00 | **"Мымрык"** (казка-жарт для дзяцей і бацькоў) Валянцін Афонін |
| **15 пятніца** 10-00 | **"Добры змей"** (лясная казка) Аляксей Якімовіч |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| **1 пятніца** 19-00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| **2 субота** 17-00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |
| **5 аўторак** 19-00 | **"Вавілон"** (фантасмагарычная камедыя) Аляксей Дудараў |
| **6 серада** 17-00 | ДКЧ. **Аляксандр Ільін**. Канцэрт аўтарскай песні |
| **10 нядзеля** 17-00 | **" Без мяне мяне ажанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) Франц Ксавер Кроц |
| **12 аўторак** 19-00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| **13 серада** 19-00 | **"Аўчары"** (сучасная драма) Вячаслаў Лапцік |
| **14 чацвер** 19-00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| **15 пятніца** 19-00 | **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| **17 нядзеля** 17-00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| **19 аўторак** 19-00 | **"Секс па перапісцы"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях) Лявон Вашко |
| **24 нядзеля** 17-00 | **"Апошняя ахвяра"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксандр Астроўскі |
| **26 аўторак** 19-00 | **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| **27 серада** 19-00 | **"Хочаш вер, хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| **28 чацвер** 19-00 | **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын |
| **29 пятніца** 19-00 | **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) Рабер Тама |

Маладзечна, вул. Чкалава, 7. Тэл. каса 52417, гал. адміністратар 61732

## Драматычны тэатр у Смаргоні

**26 лютага Мінскі абласны драматычны тэатр пазнаёміць са сваёй творчасцю жыхароў Смаргоні.**

Гастролі пройдуць у актавай зале СШ №6. Маладзечанцы аб 11-й гадзіне прапануюць пастараль для дзяцей "Проста Мяфа" **Алены Палешчанкавай**. А ў 14-00 – лірычную камедыю "Характары" **Васіля Шукшына**.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# «Я не верыў, што мне жадаюць дабра»

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 лютага, а 22-й гадзіне, ля магазіна №61 па вуліцы Францыска Скарыны міліцэйскі нарад затрымаў 15-гадовага п'янага хлопца, які з нажом у руках вымагаў грошы ў непаўналетняга.**

Злачынцу завуць **Кірыл Палянскі**. За два дні да гэтага ён збег з сацыяльнага прытулка.

З харастырыстыкі Кірыла Палянскага:

*Кірыл Палянскі паступіў у сацыяльны прытулак 30 лістапада 2001 года. Здольны, можа займацца на "4" і "5". Дастаткова развіты, аккуратны. Цікавіцца гісторыяй Беларусі, літаратурай дэтэктыўнага жанру. Марыў стаць настаўнікам, але з-за прабелаў у ведах асаблівага старання не праяўляў да ажыццяўлення мары. Нешматслоўны, у размове стрыманы, асцярожны. Унутрана азлоблены на ўвесь свет, але знешне гэта не праяўляецца. Не верыць у дабро. Падвержаны чужому ўплыву, не можа стрымаць слова. Двойчы самавольна пакінуў прытулак.*

*Падлетак патрабуе чулага стаўлення да сябе, пастаяннага кантролю з боку дарослых, цеплыні, разумення.*

Жыве ў Маладзечне падлетак – Кірыл Палянскі. Рознае ён перабачыў. У 11 год трапіў на два гады ў спецшколу. Пражываў з маці-інвалідам першай групы і п'яніцай. Бацька даўно кінуў сям'ю. Кірыл трапіў у сацыяльны прытулак на базе дзіцячага садка №20. Напісаў заяву сам: "Прашу накіраваць у групу прытулка, бо мне надакучылі п'яныя фізіяноміі матчыных сябровак". Пайшоў у школу. Знайшліся дзве сям'і, якія гатовыя ўзяць апеку над Кірылам. На 1 сакавіка прызначаны суд аб пазбаўленні яго маці бацькоўскіх правоў. Пасяброваў з дзяўчатамі са сваёй школы, якія наведвалі яго ў прытулку. Але за тры дні ён двойчы збягаў і здзейсніў злачынства. Цяпер яму за разбой пагражае пазбаўленне волі ад 3 да 10 гадоў. Улічваючы яго мінулае, Кірылу могуць даць гадоў шэсць, не меней.

У артыкуле мы не выступаем у ролі суддзяў. Гэта ім вырашаць, як пакараць Кірыла. Мы не апраўдваем учынак Палянскага. Той падлетак, на якога напаў маладетні злачынца, шмат перажыў і ён можа з поўным правам патрабаваць заслужанага пакарання злачынцы.

Больш за іншых апошнім часам з Кірылам гутарыла загадчыца садка №20, у якім знаходзіцца сацыяльны прытулак, — **Вольга Башынская**:

– 30 лістапада прыйшоў звычайны падлетак. Ён спакойна адказваў на пытанні. Я і сацыяльны педагог часта гаварылі з ім. Кірыл пайшоў у школу, добра вучыўся. Але праз некаторы час засумаваў. Справа ў тым, што наш прытулак прызначаны для малых дзяцей. Побач з Кірылам былі малодшыя школьнікі і дзецi-дашкольнікі.

Ён папрасіў дазволу наведваць спартыўную секцыю. За час знаходжання хлопца ў прытулку мы знайшлі дзве сям'і, якія былі гатовыя ўзяць Палянскага пад апеку. Кірыл пабываў у іх у гасцях падчас зімовых канікулаў. Яму там падабалася. Гаварыў:

– У сям'і я жыў бы.

У клас, дзе вучыўся Палянскі, прышоў выпускнік спецшколы. Прыкладна ў гэты час Кірыл пачаў мяняцца. У "Дзённіку назіранняў", які вялі ў прытулку, ёсць запіс ад 12 снежня: "Кірыл па-ранейшым ветлівы і акуратны, але пачала зніжацца цікавасць да падрыхтоўкі дамашніх заданняў. Стараецца застацца ў адзіноце".

13 лютага адпрасіўся схадзіць на секцыю. Мы дамовіліся, што ён патэлефануе мне дахаты, калі вернецца. Але званка не было. У 6 раніцы мы прыехалі на кватэру да яго маці. Знайшлі Кірыла там.

На наступны дзень ён пайшоў у школу. 15 лютага вечарам збег яшчэ раз. Шукалі да 11 гадзін вечара, але безвынікова. У суботу вечарам мне дадому патэлефанавалі яго сябры, якія сказалі:

– Выратоўвайце Кірыла.

Ён звязаўся з хлопцам гадоў дваццаці, які мае аўтарытэт у крымінальных колах. Сябры Кірыла пабіліся з ім, але сілы былі няроўныя. Кірыл быў нападпітку. Мы паехалі па адрасе, але сябры Кірыла пераблыталі вуліцу. У той дзень мы яго не знайшлі.

У панядзелак я патэлефанавала ў інспекцыю па справах непаўналетніх. Юнак быў у КПЗ. Я спыталася ў Кірыла: "Ну што, ты "аўтарытэт"? Чаму збег другі раз?"

"Я дурань...", – адказаў ён.

Наперадзе суд. Адныя з апекуноў напісалі паручыцельства, што гатовыя да суда ўзяць Кірыла пад апеку. Нягледзячы на тое, што яны павінныя будуць заплаціць 5 мільёнаў рублёў, калі Кірыл утворыць яшчэ нешта.

Вольга Башынская лічыць, што грамадства дапусціла памылку, калі пасля спецшколы накіравала яго да маці, дзе кожны дзень выпівалі. Аднойчы Кірыл спусціў з лесвіцы адну з сяброўак маці. Тая напісала заяву ў міліцыю.

Чакаем суда.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Кірыла КАРПІЦКАГА.

**Дзіцячы садок №20. Праз гэтыя дзверы збег у мінулую пятніцу 15-гадовы Кірыл Палянскі.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 14 лютага | 21 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 1653,00 руб. | **1662,00** руб. |
| Літ | 419,33 руб. | **421,59** руб. |
| Расійскі рубель | 53,60 руб. | **53,81** руб. |
| Злоты | 397,42 руб. | **399,42** руб. |
| ЕЎРА | 1447,86 руб. | **1455,41** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1660 – 1680 руб. | **1670 – 1690** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 13.02 | 20.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 9200 | **8900** |
| Сасіскі, 1 кг | 3950 | **3520** |
| Селядзец, 1 кг | 1800 | **2200** |
| Рыс, 1 кг | 600 | **620** |
| Грэчка, 1 кг | 550 | **530** |
| Цукар, 1 кг | 730 | **730** |
| Алей, 1 л | 1550 | **1550** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | **1000** |
| Маянэз, 200 г | 320 | **320** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | **1800** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **580** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 600 | **600** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | **550** |
| Капуста, 1 кг | 500 | **600** |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | **1500** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1600 | **1300** |
| Масла, 1 кг | 3400 | **3400** |
| Тварог, 1 кг | 1500 | **1500** |
| Малако, 1,5 л | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | **1400** |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 800 | **700** |
| Яблыкі, 1 кг | 500 | **550** |

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ



## Кандуктары застануцца

**Васіль Рамановіч** з Маладзечна пытаецца: "Чаму ўстанавілі двухкратную плату ў аўтобусе ў выходныя і святочныя дні?".

*"Можна прадаваць білеты ў кіёсках "Саюздруку", а кандуктараў скараціць. Яны ствараюць нязручнасці для пасажыраў, калі аўтобусы перапоўненыя".*

Адказвае дырэктар Маладзечанскага аўтапарка №4 **Пётр Мамчыц**:

– У выходныя і святочныя дні дзейнічаюць экспрэс-маршруты, кошт якіх вышэйшы. На гэта ёсць дазвол гарвыканкома. А прадаваць білеты ў кіёсках – нерэальна. Кандуктары нікому не перашкаджаюць, а збіраюць з усіх плату. Напэўна, той, хто задае гэтае пытанне – патэнцыяльны "заяц".

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Беражыце сэрца

У 2001 годзе ў Маладзечанскім раёне асноўнай прычынай смерці былі сардэчна-сасудзістыя захворванні – 624 чалавекі; траўмы і атручванні – 145 чалавек; вострыя алкагольныя атручванні – 45; самагубствы – 34 чалавекі; анкалагічныя хваробы – 79 чалавек. Сярэдняя працягласць жыцця склала 66,6 гадоў. Жанчыны жывуць больш за мужчын (77,9 гадоў супраць 62,1).

Звесткі прадаставіла загадчык раённага ЗАГСа **Ніна Бажко**.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ЗАРАБОТКІ

## На розных палюсах

МЯДЗЕЛ. Сярэдні заработак у раёне ў студзені склаў 121 тысячу рублёў. Найбольш атрымалі работнікі крэдытавання і страхавання – амаль удвая больш за сярэднюю зарплату. Няблага маюць работнікі сувязі і ЖКГ. А менш за ўсіх налічана працаўнікам сельскай гаспадаркі – каля 76 тысяч рублёў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Палова парушальнікаў «на сумленні» дружыннікаў

**АСТРАВЕЦ. 19 лютага ў памяшканні Астравецкай пагранкамендатуры адбыўся каардынацыйны сход добраахвотных дружын пагранічнікаў.**

У памежным атрадзе створана 26 дружын, членамі іх з'яўляюцца 248 чалавек. У асноўным, гэта жыхары памежных з Літвой вёсак. У іх абавязкі ўваходзіць інфармаванне пагранічнікаў аб спробах перамяшчэння кантрабанднага грузу ў Літву, незаконнага пераходу мяжы і міграцыі асоб афраазіяцкага паходжання. Прынамсі, у жніўні мінулага года пагранічнікі затрымалі амаль 30 парушальнікаў мяжы. Большасць з іх была затрыманая дзякуючы інфармацыі, своечасова перададзенай дружыннікамі.

Акрамя гэтага, на сходзе абмяркоўваліся пытанні заахвочвання дружыннікаў, прадстаўлення да ўзнагарод. Прыкладам, калі, дзякуючы інфармацыі дружыннікаў, сума затрыманай кантрабанды перавысіць 500 мінімальных заробткаў, то інфарматараў прадставяць да медаля "За адзнаку ў ахове дзяржаўнай мяжы".

А ў сакавіку на нарадзе, што пройдзе ў камітэце пагранвойскаў у Мінску, будуць абмеркаваныя пытанні грашовага заахвочвання дружыннікаў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Хабар як вырашэнне праблемы

**АСТРАВЕЦ. Некалькі дзён таму супрацоўнікі раённага аддзела КДБ сумесна з апаратыўнікамі з Астравецкага РАУС затрымалі інжынера мінскага РУП "Белдарцэнтр". Падазраецца ён у атрыманні хабару ў 50 долараў ЗША.**

Інцыдэнт адбыўся непадалёку ад пагранпераходу "Катлоўка", калі вадзіцеля аўтафуры з Расіі спынілі для ўзважвання грузу. Аказалася нестыкоўка грузу па дакументах і ў машыне. За вырашэнне праблемы інжынер "запатрабаваў" з расіяніна 50 долараў ЗША. Праз некаторы час пра гэты факт даведаліся аператыўнікі.

У дадзены момант інжынер арыштаваны, пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце хабарніцтва.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Утапіўся ў калодзежы

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак утапіўся 84-гадовы жыхар Краснага. Ён упаў у калодзеж.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Небяспечная Уша

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 лютага каля чыгуначнай станцыі Уша пабілі мужчыну. У яго адабралі кажух, гадзіннік маркі "Луч", ваенны білет і 10 тысяч рублёў. У гэты ж дзень злодзеяў затрымалі.**

У здзяйсненні злачынства падазраюцца хлопцы 18, 18 і 24 год, якія знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КАДРЫ

## На павышэнне ў аблвыканком

**СМАРГОНЬ. Дырэктар завода аптычнага станкабудавання Аляксандр Радзевіч перайшоў на работу ў Гродзенскі аблвыканком. Цяпер ён намеснік старшыні.**

Спыталіся ў былога дырэктара СЗАСа, як ён успрыняў павышэнне па службе.

– Якое ж тут павышэнне? Наадварот, з дырэктарскага паста знялі, - пажартаваў А. Радзевіч. – А калі сур'ёзна, то ў мяне вельмі складаныя пачуцці ў сувязі з пераходам на новую работу. Канкрэтная інфармацыя пра гэтае прызначэнне паступіла зусім нядаўна. Магу сказаць адно: трэба працаваць, і работа мае быць вялікая. Першы час выконваць абавязкі дырэктара будзе мой першы намеснік **Алег Крысін**.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

■ СЛУЖБА «01»

## Месячнік пажарнай бяспекі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачаўся месячнік пажарнай бяспекі ў бытавых, падсобных і дапаможных памяшканнях, на будаўнічых пляцоўках тых аб'ектаў, што цяпер будуюцца.**

У горадзе і раёне 62 такія месцы. Мэта месячніка, які традыцыйна праходзіць два разы на год, - папярэджанне пажараў. Апошні такі выпадак быў 7 лютага. У 4 раніцы загарэўся будаўнічы вагончык на тэрыторыі будоўлі Дома культуры. Прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электраправодкі. Агнём пашкоджаны дах вагончыка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Алкагалізм: сімптомы хваробы

## Што гэта такое

**Алкаголь — гэта этылавы (або вінны) спірт. Да ўжывання алкаголю прывыкаюць, як да курэння тытуню або да морфію, опію і іншых наркотыкаў.**

Навагу людзей, якія п'юць эпізадычна і няшмат, якія лічаць, што яны прытрымліваюцца "нормы", у большасці выпадкаў узнікае хваравітая цяга да алкаголю. З іх адныя больш ці менш хутка, іншыя праз некалькі год робяцца алкаголікамі. Пры сістэматычным жа прыёме спіртных напіткаў нарастаюць незваротныя змяненні ў мозгу, выклікаючы цяжкія псіхічныя і неўралагічныя парушэнні (зніжэнне інтэлекту, расстройствы памяці, прыдуркаватасць, алкагольныя паліінеўрыты і інш.).

Важнай прыкметай пачатковай стадыі алкагалізму з'яўляецца цяжкапераадольная цяга да алкаголю, да стану ап'янення. Спачатку гэтае жаданне выпіць не асэнсоўваецца чалавекам як хваравітая цяга. Ён можа лічыць, што яму проста падабаецца весяліцца, што тыя людзі, з якімі ён ужывае спіртныя напіткі, яму цікавейшыя за ўсіх астатніх; паступова пашыраецца колькасць прычын, якія быццам бы дазваляюць ужыванне спіртных напіткаў (з прычыны выхаднога дня, заканчэння рабочага дня, канфліктных сітуацый на рабоце, у сям'і), усё цяжэй робіцца адхіляць заманлівыя для яго прапановы "сяброў". У далейшым ён пачынае ўжываць спіртныя напіткі "ад суму", "даўно не піў", "ад няма чаго рабіць".

У таго, хто захварэў алкагалізмам, перш за ўсё, мяняюцца паводзіны. Пры думцы пра магчымасць выпіць павышаецца настрой, з'яўляецца


Алкагалізм: сімптомы хваробы. Фота IREX/ProMedia.

нецярплівасць. Службовыя абавязкі, справы лёгка адступаюць на задні план. Такі чалавек сам робіцца ініцыятарам выпівак, адшукваючы для гэтага любую прычыну.

Думка пра выпіўку носіць неадчэпны характар, ствараючы ў хворага стан рассеянасці, мітуслівасці, адцягваючы яго ад работы, нараджаючы пачуццё напружанасці, трывогі. Калі ў гэтым стане ён доўгі час не можа задаволіць сваё жаданне, то ў яго ўзнікае раздражняльнасць, кепскі настрой. У гэты момант чалавек быццам бы сам імкнецца да сваркі, канфліктнай сітуацыі, выкарыстоўваючы іх як яшчэ адну прычыну для ўжывання спіртных напіткаў.

Для пачатковай стадыі алкагалізму характэрны і такі сімптом, як страта кантролю за колькасцю выпітага. Выражаецца гэта, перш за ўсё, у тым, што пасля пэўнай порцыі алкаголю ў хворага абвастраецца жаданне выпіць яшчэ. Такі чалавек праспешвае з выпіўкай, часта апярэджвае "круг", выяўляючы тую прагу да алкаголю, якая адразу ж кідаецца ў вочы навакольным. Спачатку разнастайныя сацыяльна-этычныя (незнаёмая кампанія, наяўнасць людзей, чыя думка неабыякавая і інш.) быццам бы прымушаюць яго змагацца з жаданнем піць яшчэ і яшчэ, і яму, усё ж, удаецца сябе перамагчы. Але потым ужо нічога не ідзе ў разлік. Адзначаецца змяншэнне дозы алкаголю, якая выклікае эфект растармажэння.

Адной з першых прыкмет алкагалізму з'яўляецца знікненне моташліва-рвотнага рэфлексу. Моташлівасць і рвота — гэта звычайная рэакцыя арганізма на ўсякае атручванне. Калі рвота не ўзнікае, то гэта сведчыць пра страту арганізмам ахоўных функцый. У алкаголікаў арганізм прывыкае да атруты.

На ўзнікненне захворвання паказвае і такі сімптом, як устойлівасць арганізма да дзеяння алкаголю. Гэта выражаецца ў тым, што для дасягнення аднаго і таго ж эфекту — паляпшэння настрою, самаадчування — патрабуюцца з цягам часу ўсё большыя дозы спіртных напіткаў. І мы яшчэ нярэдка чуем заявы пра тое, што некаторыя могуць выпіць вялікія дозы спіртнога і быццам бы адчуваюць сябе "цудоўна". Такія людзі і не здагадваюцца, што ступілі на небяспечную дарогу алкагалізму.

Важна адзначыць, што пры алкагалізме назіраецца ўстойлівасць не толькі да разавай дозы алкаголю, але і да частаты выпівак. Калі здаровы чалавек аднаразова прымае вялікую дозу спіртнога, то алкаголь дастаткова доўга выклікае ў яго негатыўныя адносіны. Пры развіцці алкагалізму чалавек не можа вытрымаць доўгіх паўз паміж прыёмамі высокіх доз. І калі ў яго ўзнікае жаданне перастаць піць, то яно не трымаецца больш за некалькі дзён.

Адным з важнейшых прыкмет, якія ўказваюць на наяўнасць алкагалізму, з'яўляецца змяненне характару алкагольнага ап'янення. Перыяд прыўзнятага настрою скарачаецца, рухальная слабасць змяняецца рухальнай растармажанасцю, імкненнем кудысьці ісці, штосьці рабіць. Адзначаецца завастрэнне на адной ідэі або думцы. Часта вярталася да тэм, якія могуць быць непрыемныя навакольным, бываюць надакучлівыя, нетактоўныя. Яны ўспамінаюць несправядлівасці, нанесеныя ім крыўды.

Да аднаго з ранніх прыкмет алкагалізму адносяцца развіццё неўратычнага стану. Зніжаецца працаздольнасць, хутка стамляюцца, часта робяць перапынкі ў рабоце. Іх настрой вельмі няўстойлівы. Яны робяцца капрызлівыя, патрабавальныя да навакольных. Узнікае павышаная раздражняльнасць, парушаецца сон. Вельмі пакутлівы працёс засынання. Характэрныя ранняе прабуджэнне, прачынанне ад самага малога шолаху. Такія пацыенты скардзяцца на стамляльнасць, зніжэнне працаздольнасці і тлумачаць гэта нагрузкай, сямейнымі канфліктамі, якімі-небудзь захворваннямі. Яны становяцца пацыентамі тэрапеўтаў, неўрапатолагаў, скардзяцца на павышаны артэрыяльны ціск, болі ў вобласці сэрца, страўніка, дрэнны сон, адсутнасць апетыту, болі ў суставах, мышцах, спіне.

Па меры развіцця алкагалізму звужаецца кола інтарэсаў. Няма імкнення да павышэння сваёй кваліфікацыі, службовага росту, выканання сямейных абавязкаў; забываюцца ранейшыя сябры, перавага аддаецца новым сябрам, схільным да ўжывання алкаголю. З'яўляецца абыякавасць да ўсяго, халоднасць да блізкіх.

Мы пералічылі асноўныя прыкметы, характэрныя для ранняй стадыі алкагалізму. Усе яны сведчаць пра тое, наколькі гэта сур'ёзнае захворванне. Калі вы схільныя да ўжывання спіртнога, спыніцеся, пакуль не позна. Ну, а калі вы заўважыце ў сябе наяўнасць якога-небудзь вышэйзгаданай прыкметы, неадкладна звярніцеся да ўрача-нарколага наркалагічнага дыспансера.

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ, галоўны ўрач Маладзечанскага гарадскога Цэнтра здароўя.**

# Як вылечыцца

Псіхолагагі і ўрачы, што даследуюць праблему алкагалізму і сямейных узаемаадносінаў прыйшлі да двух вельмі важных высноў. Першая: алкагалізм — гэта хвароба. Такая ж, напрыклад, як гіпертанія ці апендыцыт. Але ж нельга ўгаварыць гіпертоніка знізіць ціск або чалавека, які пакутуе на апендыцыт, "спыніць" болі ў жываце. Гэтак жа і чалавек, што п'е: каб ён мог, ён бы гэта зрабіў сам. Гэта вельмі важна запомніць, каб не губляць ваш час і траціць нервы на безвыніковыя размовы, а звярнуцца да іншых, больш дзейсных сродкаў і метадаў.

І вось другая выснова: сям'я ўяўляе сабой замкнутую сістэму. А значыць, любое змяненне паводзінаў аднаго з членаў сям'і непазбежна вядзе да змяненняў паводзінаў іншых членаў сям'і. Калі вы не можаце ўздзейнічаць на мужа-алкаголіка і хочаце памяняць яговыя паводзіны, мяняйце свае паводзіны — на сябе ж вы ўздзейнічаць можаце. Любы чалавек востра адчувае і адразу рэагуе на змяненне становішча ў сям'і, "перамену клімату". Тым больш той, што п'е.

Вось некалькі канкрэтных прыкладаў. Чалавек, які п'е, хутка прывыкае да таго, што яго паводзіны робяцца цэнтрам увагі ў сям'і.

Паступова выпіўка робіцца самым лёгкім і звыклым спосабам звярнуць на сябе ўвагу. Такім чынам, атрымліваецца, што навакольныя міжволі патураюць яго п'янству, нягледзячы на шчырае жаданне дапамагчы.

У гэтым выпадку вы павінны асэнсаваць і паказаць, што ў вас уласнае жыццё, ёсць свае планы і ідэі, свае інтарэсы і свае сябры. Вашае жыццё — для вас, а не з'яўляецца дадаткам да чалавека, які злоўжывае алкаголем. І вашае самаадчуванне не абавязкова павінна залежаць ад таго, колькі ён выпіў. І калі гэта зразумееце, асэнсаваць і прадэманстраваць, то чалавек раптам бачыць, што яго п'янства не ставіць яго ў асаблівае становішча, а наадварот, зневажэе яго перад іншымі членамі сям'і.

Як жонка садзейнічае п'янству мужа? Гэта калі выпалачваюць яго даўгі, "лечаць" дамашнімі сродкамі ад пахмелля. Усе гэтыя віды "дапамогі" пераконваюць алкаголіка ў адным: што б ён ні зрабіў, яму дапамогуць, знойдуць рашэнне ўсіх праблем, і не трэба браць на сябе адказнасць за свае ўчынкі, а значыць, можна працягваць піць. Ён можа нават не асэнсоўваць гэтай думкі, не прызнавацца ў гэтым самому сабе. Давайце, усё ж, паглядзім праўдзе ў вочы і падумаем, чаго вы хочаце ва ўзаемаадносінах з ім: саўдзельнічаць у яго п'янстве або рашуча накіраваць на дарогу выздараўлення. Раз ёсць хвароба, трэба дзейснае лячэнне, ніякія паўмеры больш не дапамогуць.

Выхаванне ў чалавека, які п'е, устаноўкі на цвярозасць — задача нялёгкая, але яе можна вырашыць. У кожным чалавеку спалучаюцца слабасць і сіла, трэба знайсці іх і прымусіць працаваць супраць хваробы.

І вось сітуацыя змянілася, нейкі метад дапамог, штосьці падзейнічала — і чалавек заяўляе: "Больш не п'ю! Хопіць, сваю цыстэрну выпіў". Кожны, хто п'е, праз такі перыяд праходзіць. І тут для многіх сем'яў пачынаецца вельмі складаны перыяд. Чалавеку, які кінуў піць, першы час вельмі складана эфектыўна вырашаць задачы, што ўстаюць перад ім, супрацьстаяць жыццёвым цяжкасцям. Любы канфлікт, стрэс, любая псіхічная траўма могуць прымусіць яго вярнуцца да адзінага вядомага спосабу псіхалагічнай абароны — да выпіўкі. Вялізную дапамогу ў гэты перыяд можа аказаць сям'я. Вельмі важна загадзя прадумаць і падрабязна "прайграць" тыя стрэсавыя сітуацыі, якія рана ці позна ўзнікнуць. Напрыклад, прыход гасцей, свята, праблемы на рабоце, канфлікт у сям'і. Нарэшце, проста правядзенне выхадных дня, вольнага часу. Неабходна падрабязна, усёй сям'ёй прадумаць, як сябе паводзіць у кожнай з гэтых сітуацый, якія словы гаварыць, чым сябе адцягнуць ад выпіўкі.

Іншы раз як бывае? Муж п'е, жонка адна і домам, і дзецьмі займаецца, і грашыма распараджаецца. Яна галоўная ў сям'і, і ў яе нялёгкім жыцці гэта служыць нейкай узнагародай, якая мірыць яе з рэчаіснасцю. Але вось муж перастае піць і пачынае прэтэндаваць на тое, каб узяць усе справы ў свае рукі: кантралюе справы сям'і, дае ўказанні, выражаць прэтэнзіі. Ён прэтэндуе на тое, каб вярнуць сабе статус "галавы" сям'і, жонка ж лічыць, што ён яшчэ не мае на гэта праву пасля стольких год п'янства ("Дзе ты раней быў, каб цяпер правы "качаць"?").

І вось так, часта неўпрыкмет, наспявае канфлікт, выратаваннем ад якога для жонкі з'яўляецца аднаўленне стану рэчаў, які існаваў раней. І адбываецца дзіўнае: жонка, якая столькі год марыла, каб муж кінуў піць, ці сама ставіць яму бутэльку "за добрыя паводзіны", або правакуе сварку, падсвядома ведаючы, што ён не вытрымае і адрэагуе запоем.

Зразумела, падобнае адбываецца не ва ўсіх сем'ях. Аднак вось пра што трэба памятаць заўсёды: калі вы хочаце зрабіць алкаголікам непітушчага чалавека за які-небудзь год, ніколі не хваліце мужа, гаварыце з ім толькі пра тое, што ён не зрабіў, што ў яго не атрымліваецца, чаго ён не ўмее. А каб справакаваць запой у былога алкаголіка, дастаткова аднаго слова, сказанага не да месца! Памятайце, што першыя месяцы цвярозасці — перыяд цяжкі для таго, хто кінуў піць. Таму пастарайцеся з разуменнем да яго раздражняльнасці і перападаў настрою, да нейкіх памылак і абавязкова адзначайце, чаго ён дасягнуў дзякуючы цвярозаму жыццю.

Адзін важны момант. Прымяняючы гэтыя метады на практыцы, вельмі карысна самому прайсці псіхалагічнае кансультаванне ў добрага медыцынскага псіхолага і для пачатку разабрацца ў сабе. Вы набудзеце зарад неабходнай энергіі, упэўненасці ў сваіх сілах, цярплівасці. Таму што цярплівасць тут, як і ў любой іншай справе неабходныя. Аднак вынік — вяртанне роднага чалавека ў сям'ю, да нармальнага чалавечага жыцця — каштуе многага.

**Мікалай Сураўцаў, урач-псіхатэрапеўт.**

# Першая ўрачэбная амбулаторыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Праз некалькі тыдняў на базе другой гарадской паліклінікі (былая паліклініка "Спадарожніка") адкрыецца першая ў горадзе ўрачэбная амбулаторыя. Прыём там будзе весці ўрач агульнай практыкі Іна Кісель.**

Расказвае галоўны ўрач другой гарадской паліклінікі **Рыгор Шышоў**:

— Урачэбная амбулаторыя адкрыецца ў рамках рэспубліканскай праграмы па рэфармаванні першаснай медыка-санітарнай дапамогі. Мы вырашылі скарыстаць досвед заходніх краін, дзе няма ўчастковых урачоў і паліклінік. Замест іх працуюць урачы агульнай практыкі, якія валодаюць сучаснымі методыкамі і маюць офіс з усім неабходным абсталяваннем. У складаных выпадках пацыентаў напраўляюць у дыягнастычны цэнтр, а адтуль, калі патрэбна, — у стацыянар. А так з чалавекам працуе адзін урач агульнай практыкі, якога там называюць сямейным урачом.

А нас губіць празмерная спецыялізацыя. Адзін урач адказвае за адзін орган, другі — за іншы. У выніку мы ганяем чалавека з кабінета ў кабінет, як футбольны мяч. Атрымліваецца, за здароўе чалавека ў цэлым ніхто канкрэтна не адказвае. Участковыя тэрапеўты ў цяперашніх умовах не здольныя выконваць каардынуючую ролю.

Урачэбныя амбулаторыі з поспехам працуюць на сяле. Прыкладам, па дадзеных Маладзечанскага раёна, пасля з'яўлення ўрача агульнай практыкі колькасць выклікаў "Хуткай дапамогі" скарацілася на 40%, узровень шпіталізацыі стаў ніжэйшы на 21%. Наведванне спецыяльных урачоў у раённай паліклініцы насельніцтвам раёна зменшылася ў сярэднім на 35%. Вось якую нагрузку нясе ўрач агульнай практыкі. Ён на месцы вырашае значную частку пытанняў і толькі ў больш складаных сітуацыях накіроўвае хворых у паліклініку.

Мы спадзяемся, што з'яўленне ўрача агульнай практыкі зменшыць чэргі ў паліклініках і зможа павысіць якасць абслугоўвання гараджан. Менавіта з-за гэтага ўпраўленне па ахове здароўя і пайшло на эксперымент.

Маладзечанскі ўрач агульнай практыкі Іна Кісель можа замяніць тэрапеўта, эндакрынолага, ЛОРа і афтальмолага. Яна скончыла Гомельскі медінстытут, а летась — курсы ўдасканалення ў Беларускай акадэміі паслядыпломнай адукацыі на кафедры ўрача агульнай практыкі. Прыём хворых Іна Кісель будзе праводзіць з 8 да 13 гадзін. Тэлефон рэгістратуры — 44040. Да ўрача агульнай практыкі могуць запісацца жыхары дамоў 1, 3, 5, 5а, 7-19 (няцотны бок) па вуліцы Драздовіча, 1-17 (няцотны бок), 12-18 (цотны бок) па вуліцы Лебедзеўскай, 1-53 (няцотны бок), 2-36 (цотны бок) па Вялікім Гасцінцы, 24-42 (цотны бок) па вуліцы Вольнай, і тыя, што жывуць на вуліцах Заводскай, Абводнай, у 1-м, 2-м і 3-м Рабочых завулках.

**Сямён БОНДАР.**

Ліц. №1332 Мін. аховы здароўя РБ ад 27.12.99 да 27.12.2004.

■ ТУРЫЗМ

# Пешшу да Вішнеўскага сталеліцейнага завода

**Маршрут пешага краязнаўчага паходу выхаднога дня. Працягласць 16 кіламетраў. Маршрут: станцыя Маладзечна – станцыя Багданаў – вёска Ігнатава – вёска Альшанка – вёска Вішнева – парк Адрывонш – вёска Кацеўшчына – рака Альшанка – станцыя Багданаў – станцыя Маладзечна.**

Схема знятая з карты, выкананай у маштабе 1:200000, і павялічаная ў 6 разоў. Маштаб схемы 1:33333.

Наша падарожжа пачынаецца на чыгуначным вакзале станцыі Маладзечна з 3-га пуці 3-й платформы. Тут звычайна знаходзіцца дызель "Маладзечна-Ліда". Ён нас даставіць да пачатку маршруту. Цягнік адпраўляецца ў 8-35 і ў 10-05 прыбывае на станцыю Багданаў. Ад перона ідзем да нямецкіх могілак перыяду першай сусветнай вайны. Для гэтага пераходзім чыгуначныя пуці і па гравійцы, якая цягнецца сярод хат вёскі Дзесятнікі, даходзім да шашы Р-53, Гальшаны-Валожын. За ім, насупраць аўтобуснага прыпынку, - могілкі. Перад намі адкрыецца 5-6-метровая каменная вежа – капліца, якую ўвенчвае скульптура арла з распасцёртымі крыламі. Гэтае збудаванне з'яўляецца помнікам архітэктуры. Прозвішча архітэктара і год пабудовы капліцы выбітыя на яе падмурку. Пад імі таксама ўстаноўлены польскі геадэзічны знак вышыні.

Скончыўшы агляд капліцы, па асфальце шашы Р-53 рухаемся да вёскі Вішнева. Да яе ад могілак 5 кіламетраў. На ўваходзе ў вёску, справа, убачым касцёл "Дабравешчання Прачыстай Марыі Панны". Ён быў пабудаваны ў 1424 годзе з цэглы віленскім кастэлянам **Сямёнам Гедыгольдавічам**. У 1637 годзе храм быў перабудаваны графам **Юрыем Храптовічам**, навагрудскім ваяводам. Дарэчы, ён пахаваны ў касцёле перад алтаром. З той прычыны, што служба ў храме заканчваецца ў 12 гадзін, агляд храма мэтазгодна пачаць са званіцы і капліцы, зробленай са шлаку мясцовага сталеліцейнага завода. Абодва гэтыя помнікі архітэктуры знаходзяцца ў двары касцёла. Агледзім храм звонку і знутры, потым, перш чым рушыць далей па маршруце да праваслаўнай царквы 1886 года пабудовы, паабедаем у хваёвым ляску, размешчаным у 200 метрах ад касцёла, з левага боку дарогі.

Але вернемся да царквы Казьмы і Дзям'яна. Дзверы яе заўсёды адчыненыя, і не толькі для прыхаджан. Тут нам паведаюць гісторыю царквы і легенду, звязаную з яе назвай. Пакідаем праваслаўны храм і спускаемся да плаціны, што перагарадзіла раку Альшанку. Адсюль калісьці пачыналася тэрыторыя маёнтка графаў Храптовічаў. Тут, ля ракі, у 1780 годзе граф **Яўхім Храптовіч**, падканцлер Вялікага княства Літоўскага пачаў будаўніцтва першай у Літве доменнай печы, якая дала пачатак стварэнню Вішнеўскага сталеліцейнага завода. Цяпер на яго месцы стаіць школа. Пра тое, што тут калісьці была ліцейная вытворчасць, гаворыць вялізная колькасць шлаку і рэшткі гідратэхнічных пабудоў. Аглядаючы іх, убачым шыльдачку на будынку школы. На ёй напісана: "Тут, у Вішневе, правяла гады дзяцінства і ранняй маладосці вядомая беларуская паэтэса Канстанцыя Антонаўна Буйло".

Ваша прысутнасць на тэрыторыі школы не застанецца незаўважаная мясцовымі жыхарамі, і яны з ахвотай раскажуць вам усё, што ведаюць пра сваю вёску. Больш поўную інфармацыю пра Вішнева можна атрымаць у мясцовага краязнаўцы, былога партызана-падрыўніка **Канстанціна Обаля**. Ён жыве недалёка ад школы.

Агледзелі рэшткі завода і па правым беразе ракі Альшанкі ідзем да парку Адрывонш. Тут знаходзілася раней сядзіба Храптовічаў. Зусім нядаўна, 4-5 год таму, тут размяшчаўся піянерскі летнік Мінскага маторнага завода. Цяпер усе пабудовы і сядзібны дом знаходзяцца ў заняпадзе. Алеі з рэдкімі пародамі дрэў зараслі і ператварыліся ў непралазны гушчар. Але і тое, што засталося ад сядзібы, дае ўяўленне пра адно з прыгажэйшых месцаў нашага раёна. Частка парку каля ракі абгароджаная трохметровым плотам з сеткі. Гэта вальер, дзе цяпер вырошчваюць аленяў. Іх можна ўбачыць, калі паводзіць сябе ціха. Адпачываем пад цяністымі дрэвамі і пакідаем парк, а на выхадзе з яго фарсіруем невялікі ручай. Праз вёску Кацеўшчына рухаемся назад да вёскі Дзесятнікі да чыгуначнай станцыі Багданаў. Наша падарожжа падыходзіць да канца. Справа часта натыкаемся на выгібы ракі Альшанкі. Апошнія 5 кіламетраў да станцыі праходзім неўпрыкмет, таму што дзелімся ўражаннямі. Вось і вёска Дзесятнікі, чыгуначны вакзал. У 18-00 дызель Ліда-Маладзечна павязе нас дадому, а адзаду застанецца яшчэ адзін маршрут, няхай невялікі, але, як і ўсе, вельмі цікавы.

**Аляксандр МІЦЮРА, кіраўнік пошукавай групы клуба "Ладдзя".**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

# Перамога – за маладзечанцамі

**МАЛАДЗЕЧНА. 14-16 лютага прайшоў другі юнацкі турнір памяці трэнера па грэка-рымскай барацьбе Юрыя Сакалова.**

Турнір быў міжнародны. Удзельнічалі дзве мінскія каманды, а таксама барцы з Маладзечна, Маладзечанскага раёна, Глыбокага і Вільні. Спаборніцтвы праходзілі ў дзвюх узроставых катэгорыях – 1985 г. н. і 1986-88 г. н. У агульным заліку перамаглі маладзечанскія барцы.

Сярод старэйшых перамаглі Міхаіл Фалатовіч (Маладзечна, да 46 кілаграмаў), Павел Харашэвіч (Маладзечна, да 58 кг), Віталь Тарахові̌ч (Мінск, да 69 кг), Віктар Іваноў (Маладзечна, да 85 кг).

Лепшымі сярод малодшых сталі маладзечанцы Аляксандр Папоў (да 32 кг), Дзмітрый Захараў (да 35 кг), Сяргей Цар (да 47 кг), Аляксандр Забагонскі (да 53 кг), Раман Сільвановіч (да 66 кг), вілянчане М. Юрасаў (да 38 кг) і Л. Адамайціс(да 73 кг), мінчане Аляксандр Сазонаў (да 42 кг) і Сяргей Таган (да 85 кг).

Прызёры атрымалі дыпломы і медалі, а пераможцы – яшчэ і хрустальныя вазы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Таварыская схватка паміж маладзечанцам Станіславам Сіманавым і мінчанінам Вадзімам Гурчанкам. Перамог маладзечанец, негледзячы на тое, што на здымку ён у нізе.**
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Табло

■ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

**Вольга Назарава** ў спрынтэрскай гонцы на 7,5 кіламетраў прамахнулася аднойчы на двух рубяжах і стала ў выніку 14-й. Потым у гонцы праследавання яна мела таксама адзін промах ужо на чатырох рубяжах і паднялася на 11-ю прыступку. Як бачым, ёй, ды і, так атрымліваецца, усім беларускім біятланістам у Солт-Лэйк-Сіці, крыху не хапае хуткаснай падрыхтоўкі на лыжні. Дарэчы, іншыя айчынныя жанчыны, у адрозненне ад Вольгі, з цяжкасцямі прабіваліся ў мацнейшую трыццатку.

У эстафеце беларускі аказаліся сёмыя. Гэта адзін з найлепшых вынікаў за апошнія гады. Назарава завяршыла першы этап без хібаў на стрэльбішчы і з другім (!) часам у пратаколе. **Людміла Лысенка** на другім этапе аднойчы памылілася ў стральбе, а пры перадачы эстафеты была чацвертай.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні ў Чысцінскім басейне прайшлі спаборніцтвы сярод вучняў у рамках раённай спартакіяды.**

Першынство разыгралі пяць сярэдніх школ. У асабістым заліку перамаглі чысцінцы. **Ірына** і **Дзмітрый Глаўдзелі** выйгралі на дыстанцыі 50 метраў кролем, **Вікторыя Хацкова** і **Павел Грабянёк** – такую ж дыстанцыю на спіне.

У эстафеце 4х50 метраў кролем таксама перамаглі гаспадары. Сярод дзяўчат прызавыя месцы занялі каманды Радашковіцкай і Гарадоцкай СШ, у юнакоў – Красненскай і Раёўскай СШ.

У агульнакамандным заліку ўслед за гаспадарамі размясціліся каманды з Радашковічаў і Гарадка.

**Уладзімір ЗВЕРНІК.**

## Анонс

**Маладзечна, 26.02 – 02.03, памяшканне на Ясінскага, 21-а, чэмпіянат краіны па боксе сярод дарослых.**

Чакаецца ўдзел усіх мацнейшых баксёраў Беларусі, у тым ліку, удзельнікаў Алімпійскіх Гульняў, прызёраў сусветных і еўрапейскіх першынстваў **Сяргея Быкоўскага**, **Вадзіма Мязгі**, **Віктара Зуева** і іншых. Турнір будзе адборачны да чэмпіянату Еўропы, што пройдзе ў Пермі (Расія) ў ліпені. Будзе падводзіцца камандны залік, так што кожная вобласць і горад Мінск выставяць спартсменаў ва ўсіх дванаццаці катэгорыях, а будуць яшчэ і асобныя ўдзельнікі, значыць, Маладзечна наведаюць каля ста мацнейшых баксёраў краіны. Нешта будзе!

Арганізацыяй турніру займаецца Міністэрства спорту і турызму разам з Маладзечанскім гарвыканкомам. Рынг будзе прывезены са Стаек, але мяркуецца, што ў хуткім часе ў горадзе з'явіцца свой вельмі якасны рынг. На ім будуць адточваць майстэрства выхаванцы трэнера **Сяргея Асанава** (ДЮСШ аддзела па ФКСіТ). Гэты спецыяліст, майстар спорту па боксе працуе ў горадзе ўсяго два гады, але яго вучань 18-гадовы **Арцём Кохан** ужо выступіць на чэмпіянаце ў катэгорыі да 91 кілаграма.

Ітак, прасторнае памяшканне на Ясінскага, 21-а чакае заўзятараў. Кожны дзень баі будуць распачынацца з 16-00 і доўжыцца ўвесь вечар. Фінальныя паядынкі адбудуцца 2-га сакавіка, пачынаючы з 11-00.

**Маладзечна, 23.02 – 25.02, зала ЗМК, занальны турнір чэмпіянату вобласці па міні-футболе**

Удзельнічаюць шэсць каманд: маладзечанскія ЗМК і "Сябрына", пухавіцкая ТЭЦ-5, калектывы з Вілейкі, Заслаўя, Мінскага раёна.

Турнір пройдзе па кругавай сістэме. У пятніцу і суботу матчы будуць распачынацца ў 14-00, у нядзелю – у 10-00.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Каляндарны план турклуба «Пілігрым» са школьнікамі і вучнёўскай моладдзю на 2002 год

| | |
|---|---|
| Удзел у абласным конкурсе на лепшы паход 1-й катэгорыі складанасці і змешаных паходаў | 25–27.02 |
| IV зімовы злёт "Здароўе ў кожную сям'ю" | 03.03 |
| Першынство сярод школьнікаў па фігурным ваджэнні сярод школ горада | май |
| Першынство горада сярод сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў па пешаходным турызме | 15.05 |
| Гарадскі злёт школьнікаў | 31.05–2.06 |
| Сямейны злёт школьнікаў сумесна з бацькамі | 1–2.06 |
| Удзел у абласным злёце школьнікаў | па плане ад ФКСіТ |
| Арганізацыя турысцка-аздараўленчага летніка са школьнікамі | 01–28.07 |
| Метадычная дапамога ў арганізацыі турзлётаў у СШ №5 і №12 | па плане школ |
| Арганізацыя і правядзенне 4 паходаў 1-й катэгорыіскладанасці з кружкоўцамі горада (школьнікам – харчаванне) | сакавік–кастрычнік |
| Правядзенче конкурсу на лепшы турысцкі гуртак | верасень |

